# БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА У ЛАТВІІ

папулярна - навуковы, пэдагогічны і літаратурна - грамадзкі штомесячнік



**Ян Райніс - Плекшан**
11. IX. 1865. — † 12. IX. 1929.

№ 4 (14) Рыга, верасень 1932 № 4 (14)

# БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА У ЛАТВІІ

папулярна - навуковы, пэдагогічны і літаратурна - грамадзкі штомесячнік

**Падпісная плата:**
ў Латвіі да канца году — Ls 3, за межы—1 ам. даляр, або 5 лат. На месяц з перасылкай 50 сант. Адзін № у кіосках 50 сант.
Падпісную плату пасылаць на бягучы рахунак часопіса: „Bielaruskaja Škola u Latviji", Rīgā, pastā, tek. rekins №10909.

**Адрас Рэдакцыі і Канторы:**
Latvijā, Rīgā, Elija ielā 20, dz. 25 „Bielaruskaja Škola u Latviji".
**Тэлефон 2-9-9-2-2.**
**Паштовы адрас:**
Latvijā, Rīgā, pastkast № 1362.
Рэдактар па справах часопісу прыймае па чацьвяргох ад 14-ці да 16-ці гадзін.

Надсылаемыя рукапісы павінны быць чытэльна напісаны, або надрук. на піш. машынцы (**пісаць і друкаваць толькі на адным баку**).
Рукапісы назад не зьвяртаюцца.
Аплачваць аўтарскія ганорары Рэдакцыя пакуль што ня мае магчымасьці.

№ 4 (14). | Рыга, верасень 1932 году. | Год VI.

## Беларуская меншасьць у Латвіі ніколі не забудзе Яна Райніса!

12 верасьня 1929 году, зусім нечакана для ўсіх сваіх прыхільнікаў, шанаваццеляў і сваякоў, памёр вялікі латыскі паэта Ян Райніс-Плекшан. З вялікім сумам спаткана была гэтая вестка ва ўсей Латвіі: для латыскае літаратуры, для прагрэсыўнай частцы латвійскае грамадзкасьці і для маладой латыскай культуры гэта была дужа цяжкая страта. — Як паэта, як грамадзкі дзеяч і як чысьцейшай душы чалавек — Ян Райніс быў выдатнейшай адзінкай свайго народу, адзінкай, якія зьяўляюцца раз у стагодзьдзе, а часам і раз за ўсю гісторыю народу.

Вялікі сум ахапіў ня толькі латышоў, але і іншыя народнасьці ў Латвіі, бо ўсе ведалі і кахалі гэтага сівога, вялічавага чалавека, з лёгкай поступ'ю юнака, з жывымі рухамі і маладымі, шчырымі вачыма, заўсёды прыязна глядзеўшымі на чалавецтва наагул і на кождага чалавека паасобку, з якім ён меў справу.

Мы, беларусы, з асаблівым жалям спаткалі вестку аб сьмерці Яна Райніса, бо для нас ён быў ня толькі паэтай і вялікім чалавекам, але, апроч ўсяго гэтага, яшчэ і нязьменным прыхільнікам нашага адраджэнчага руху і абаронцаю нацыянальна - культурных правоў і патрэб беларускае меншасьці ў Латвіі. Уздым жалю і прыязьні да Я. Райніса, з боку беларускае меншасьці, увосені 1929 году выліўся ў шырокія грамадзкія формы, выявіўшыся ў пасылцы дэлегацый з вянкамі ад рыскіх беларускіх арганізацый і з правінцыі на магілу Я. Райніса, а ў дзень пахаваньня Я. Райніса — у арганізацыі, нават, цэлае беларускае маніфэстацыі, якая з беларускім нацыянальным сьцягам і вянкамі зьявілася 15 верасьня да будынку Сойму, каб прыняць удзел у агульным жалобным паходзе латыскіх арганізацый на магільнік*).

*) Гэтая беларуская дэманстрацыя і паход арганізаванаю калёнаю па вуліцах Рыгі быў першаю і адзінаю спробаю беларускае меншасьці дэманстраваць са сваім сьцягам на вуліцах. Да 1929 году, ды і пазьней, беларусы ніколі не выступалі з дэманстрацыйнымі паходамі на вуліцу.








Увосені 1932 году споўнілася тры гады з дня сьмерці Яна Райніса. Латыскі народ адмячае трэція ўгодкі сьмерці свайго вялікага сына, пабудовай прыгожага помніку на яго магіле і асобнымі рэфэратамі і ўспамінамі аб паэце ў школах. Мы, беларусы, ужо даўно пабудавалі Яну Райнісу помнік у глыбіні ўдзячных сэрцаў нашых. А зара‘, калі на меншасьць нашую пасыпаліся адзін-за-адным цяжкія ўдары, калі парушаюцца нацыянальна-меншасьцёвыя правы, зачыняюцца нашыя школы і, нават, прыступлена ўжо да паступовае ліквідацыі галоўнае нашае асьветнае ўстановы, Беларускае Дзяржаўнае гімназіі ў Дзьвінску, — мы, праз гора і сум, апанаваўшыя нашу меншасьць, з асабліваю прыязьньню ўспамінаемо адносіны да нас нябошчыка міністра асьветы Яна Райніса. І ад мімавольнага параўнаньня адносінаў нябошчыка да нашае меншасьці з узятым зара‘ бязлітасным курсам на поўнае зьнішчэньне нашых, з гэткімі высілкамі і стараньнем арганізаваных, школ і гімназій, — у нашых сэрцох з яшчэ большаю выразнасьцьцю і прыгожасьцьцю вычэрчываюцца контуры таго помніка, што пакінуў па сабе чалавек вялікае душы, Ян Райніс.

Адмячаючы трэція ўгодкі сьмерці Яна Райніса, заклікаемо нашыя грамадзкія арганізацыі прыняць удзел у грашовай падтрымцы Камітэта па будове помніка, які ў гэтым годзе яшчэ ня скончаны, а таксама да арганізацыі вечарынаў і рэфэратаў, прысьвечаных памяці нябошчыка-паэты. Маладыя літэрацкія сілы беларускае меншасьці клічмо да далейшых перакладаў з Яна Райніса на беларускую мову. Гэтыя пераклады дадуць магчымасьць пазнаёміцца з творамі Яна Райніса ня толькі той нязначнай частцы беларускае інтэлігэнцыі, што жыве зара‘ ў Латвіі і ведае ўжо латыскую мову, але і ўсяму дванаццаціміліённаму народу беларускаму. Беларускія паэты і літарацкія сілы ў Латвіі, не зьвяртаючы ўвагі на тыя ўдары, ушчамленьня і наскокі на нашы правы і нацыянальна-асьветныя ўстановы, што праводзяцца зара‘ некаторымі латыскімі шовіністамі, павінны цьвёрда і спакойна працаваць над запраўдным зьбліжэньнем беларускага і латыскага народу, увесь час маючы на воку і не спушчаючы з думак лепшых сыноў латыскага народу, якія ні ў якой меры ніколі не спачувалі і зара‘ не спачуваюць апошняму „моднаму“ курсу на прыгнечаньнэ беларускае меншясьці.

Моцна памятаючы аб усім добрым, што зрабіў для нас нябошчык Ян Райніс, і цьвёрда веруючы, што ўзяты зара‘ курс ёсьць толькі выяўленьне ідэолёгіі асобнае шовіністычнае групы, а ня ўсяго народу латыскага і яго грамадзкасьці, мы павінны спакойна і цьвёрда бараніць нашы правы і вясьці далей сваю асьветна-адраджэнчую працу. Пэрсанальны лёс Яна Райніса, шмат цярпеўшага крыўды і ўціск у сваім змаганьні за правы і лепшую будучыню свайго народу, аднак ніколі ня траціўшага веры і моцы, — павінен быць для нас лепшым прыкладам у сучасны цяжкі момант.

**К. Езавітаў.**

---

**Грамадзяне! пасылайце падпісную плату за штомесячнік „Беларуская Школа ў Латвіі“ на адрас: „Bielaruskaja Škola u Latviji“, Rīgā, pasta tekošs rēķins № 10919.**

---

## Замах на Дзьвінскую Беларускую Дзяржаун. гімназію.

Пасьля паходу, распачатага ўлетку г. г. гуртком шовіністаў у Люцыне на Люцынскую беларускую аснаўную 6-ціклясовую школу, зара' зроблены замах на галоўнейшую беларускую асьветную пляцоўку ў Латвіі, на Дзьвінскую Дзяржаўную Беларускую гімназію. Міністр асьветы, гр. Кеніньш, ужо з вясны распачаў рыхтаваць удар па Дзьвінскай беларускай гімназіі: у гімназію пачалі наведвацца розныя ўрадоўцы, пасыпаліся рэвізыі і запросы, пачалося зьбіраньне розных вестак аб вучыцялёх і вучнях, якія маглі-б быць хоць якой-колечы падпорай і апраўданьнем для намечанага разгрому гімназіі. Адначасна варожая беларусам рука распачала ганебную кампанію супроць Дзьвінскае беларускае гімназіі ў латыскай прэсе. Зьмяшчаліся розныя ілжывыя весткі з Дзьвінску, якія павінны былі настраіваць латыскае грамадзтва супроць гімназіі і беларусаў, а калі гімназія пасылала спраставаньня, дык іх або зусім не друкавалі, або зьмяшчалі самым дробным шрыфтам дзе-небудзь у канцы, каб іх не заўважыў чытач, які прачытаў за пару дзён перад гэтым грамовую зацемку супроць беларусаў.

Такім чынам, пачала паўторывацца — знаёмая ўжо беларусам па вядомаму Беларускаму Працэсу 1924—25 году—„падрыхтоўчая кампанія“. Беларускае грамадзтва занепакоілася, бо стала ясна, што нехта і нешта рыхтуе для нас шкоднае, аднак з якога боку, кім і ў якой форме намячаецца ўдар беларускае грамадзтва ня ведала і падрыхтавацца да адбіцьця гэтага ўдару не магло. Таму, калі 25 жніўня, за паўгадзіны да сходу Рады Міністраў, міністр асьветы паклікаў кіраўніка Беларускага Аддзелу пры Міністэрстве Асьветы гр. Ул. Пігулеўскага і паведаміў, што ён зара' едзе на сход Рады Міністраў і паставіць тамака пытаньне аб ліквідацыі Дзьвінскае Беларускае Дзяржаўнае гімназіі, — кіраўнік Беларускага Аддзелу аказаўся ўжо ня ўсілах змабілізаваць беларускае грамадзтва і папярэдзіць яго аб замерах міністра. Міністр асьветы накіраваўся на сход Рады Міністраў і, апяруючы тамака афіцыйнай паперай-даносам на Дзьвінскую гімназію з боку палітычнае паліцыі*), пачаў дамагацца зьліквідаваньня гэтае гімназіі. Рада Міністраў не ўхваліла ў гэтай справе ніякае пастановы, але і не забараніла міністру намечанае ім паступовае ліквідацыі гімназіі, спачуваючы прыняўшы ягоныя пляны даведама.

Калі беларускае грамадзтва ў Рызе і ў Дзьвінску даведалася на другі дзень з прэсы аб кроках міністра асьветы — зараз-жа і ў Рызе і ў Дзьвінску былі скліканы надзвычайныя сходы розных таварыстваў, якія выступілі з пратэстамі супроць парушэньня правоў беларускае меншасьці на сваю нацыянальную школу і ўхвалілі накіраваць да міністра асьветы і да ўсіх сяброў Рады Міністраў асобныя дэлэгацыі з мэмарандумамі, у якіх бараніць агульнае права беларусаў на асьвету ў сваей роднай мове і Дзьвінскую Беларускую

---

*) Тутака патрэбна адзначыць надзвычайна характэрную падрабязнасьць: паперу, якой апяраваў міністр асьветы супроць беларускае гімназіі прыгатавала яму палітычная паліцыя па *я г о  ў л а с н а м у  з а п р о с у*, нямаль што не „па заказу“ самаго міністра асьветы, як сам ён у гэтым прызнаўся пазьней дэлегацыі ад Т-ва беларускіх вучыцялёў, якая адведала яго 29 жніўня і перадала мэмарандум у справе Дзьвінскае гімназіі. (Мэмарандум гэты зьмешчаны ніжэй у гэтым-жа нумары нашага штомесячніка. Рэдакцыя).

Дзяржаўную гімназію, як найбольш важную беларускую асьветную ўстанову. Гутаркі з міністрам асьветы, гр. Кеніньшам, і міністрам-прэзыдэнтам, гр. Скуэнэкам, не далі тых задавальняючых вынікаў, на якія беларускае грамадзтва спадзявалася, а таму зара‘ справа Дзьвінскае беларускае гімназіі перадаецца беларусамі ў Сэнат, куды падаецца скарга бацькоў гімназіі на міністра асьветы, які зачыніў 1-ю клясу Дзьвінскае гімназіі, хацяж Сойм Латвійскі асыгнаваў у свой час сродкі на ўсе клясы гімназіі цалком.

Беларускае грамадзтва спадзяецца, што Закон і Сэнат стануць у абарону прадугледжаных законам правоў беларускае меншасьці, і з няцярплівасьцю будзе чакаць вынікаў гэтае скаргі. Да часу-ж пастановы Сэнату, вучні 1-й клясы гімназіі, якія ў ліку 29 чалавек былі ў гэтым годзе прыняты ў гімназію і ўжо зьехаліся было ў Дзьвінск на заняткі, зара‘ разьехаліся па хатах і сядзяць без асьветы і працы, чакаючы высьвятленьня свайго лёсу.

Каб паменшыць і затушаваць адмоўнае ўражаньне, зробленае на ўсю беларускую меншасьць і ў прагрэсыўных колах латвійскае грамадзкасьці загадам аб паступовае ліквідацыі Дзьвінскае беларускае гімназіі, міністар асьветы надумаўся зара‘ адчыніць пры Дзьвінскай латыскай гімназіі беларускія паралельныя клясы (у гэтым годзе толькі адную першую клясу), з выкладаньнем на беларускай мове, з шырокім звальненьнем незаможных вучняў гэтае клясы ад платы за навуку і з выдачаю, нават, стыпэндзій асабліва незаможным вучням. Уся гэтая зацея будзе каштаваць куды даражэй, чым зачыненая пры беларускай гімназіі першая кляса, але міністру асьветы ходзе не аб эканоміі, — грошы яму ня шкода, абы толькі ўдалася задуманая ім справа зьнішчэньня беларускае гімназіі. Аднак, беларускае грамадзтва ведае запраўдную прычыну ўсіх гэтых спозьненых міласьцяй: па думцы беларускае грамадзкасьці, усе гэтыя міласьці зьяўляюцца толькі новым спосабам, каб ня кіём дык пірагом зацягнуць беларусаў у латыскую гімназію і гэтым аслабіць змаганьне бацькоў за сваю нацыянальную беларускую гімназію. Таму, трэба думаць, што бацькі вучняў на гэтую вудачку ня пойдуць і будуць чакаць вынікаў разгляду справы ў Сэнаце. — Лепш 29 вучням страціць некалькі месяцаў, а то і цэлы, нават, навучальны год, чым сваім уступленьнем у паралелку, дапамагаць міністру пакрыўдзіць усю беларускую меншасьць і сваімі рукамі дапамагчы яму ў паступовай ліквідацыі Дзьвінскае Беларускае Дзяржаўнае Гімназіі.

**К. Адраджэнец.**

## Рэзалюцыя Надзвычайнага Агульнага Сходу сяброў „Т-ва Беларускіх вучыцялёў у Латвіі“, ад 27 жніўня 1932 году, у справе Дзьвінскае Дзяржаўнае Беларускае гімназіі.

„Грамадзяніну Міністру Асьветы

Надзвычайны сход „Т-ва Беларускіх вучыцялёў у Латвіі“, азнаёміўшыся з паведамленьнем газэты „Яўнакас Зіняс“ ад 26 жніўня г.г. аб паступовай, згодна распараджаньню Міністра Асьветы, ліквідацыі Дзьвінскай Дзяржаўнай Беларускай гімназіі, а таксама і з паведамленьнем быўшага прысутным на сходзе кіраўніка Беларускага Упраўленьня пры Міністэрстве Асьветы ў гэтай жа справе, канстатуе, што:

1. Ліквідацыя 1-е клясы Дзьвінскай Дзяржаўнай Беларускай

гімназіі ў самым канцы жніўня месяца, пасьля таго, як у працягу ўсяго лета праводзілася рэгістрацыя новых вучняў для гэтай клясы і пастановай Пэдагогічнай рады ўжо было прынята 29 новых вучняў, — як з адміністрацыйнага, так і з пэдагогічнага боку — зьяўляецца памылковым і няўдалым крокам, які зроблены з вялікім спазьненьнем: 29 беларускіх юнакоў былі выкінуты са школы перад самым пачаткам заняткаў, пасьля 7-гадовай падгатоўчай працы да паступленьня ў гімназію і пасьля таго, як яны былі ўжо туды прыняты. Такім чынам Ваша, гр. Міністр, распараджаньне найбальней б'е па гэтых 29 юнаках, якія ні Вам, гр. Міністр, ні Латвійскай Дзяржаве нічога злога не зрабілі, і, такім чынам, трапілі ў стан пакараных бяз жаднае віны са свайго боку.

2. Ліквідацыя 1-е клясы Дзьвінскае Дзяржаўнае Беларускае гімназіі пры 29 вучнях гавора проці 41 пункту Закона аб Прасьветных установах Латвіі, які і беларускай меншасьці ў Латвіі забясьпечывае правы на атрыманьне аснаўной і сярэдняй адукацыі ў сваей роднай мове, а таму распараджаньне гэта чапае ня толькі Дзьвінскую Беларускую гімназію, але парушае беларускія нацыянальна-культурныя правы ў Латвіі наагул.

3. Усе мотывы, якімі Вы, гр. Міністр, тлумачыце паступовую ліквідацыю Дзьвінскай Беларускай гімназіі, не настолькі важныя, каб зачыніць гімназію ў тым райёне, дзе яна найбольш патрэбна, г. ё. у Дзьвінскім павеце, дзе жывець найбольшы лік беларусаў. Праца ў гімназіі праходзіла нармальна, у яе жыцьці не здарылася нічога такога, што гімназію дыскрэтавала-б. Калі-б знайшліся якія-небудзь непарадкі ў гаспадарцы гімназіі, ці ў бухгалтэрыі, дык усе гэтыя недахопы можна паправіць, а ў патрэбным выпадку пакараць вінаватых, але ня ўсю беларускую меншасьць у Латвіі, зачыняючы адзіную Урадовую Беларускую гімназію.

4. Весткі аб вялікім ліку непоўнапраўных вучыцялёў у гімназіі—павялічаны. У гімназіі ёсьць усяго 14 вучыцялёў; з гэтага ліку непоўнапраўнымі з'яўляюцца: вучыцель матэматыкі — з незакончанай вышэйшай адукацыяй, але з вялікай практыкай; настаўнік беларускай мовы, які скончыў вучыцельскую сэмінарыю, але ў гімназіі як настаўнік беларускай мовы працуе ўжо 10-ты год; вучыцель гімнастыкі і вучыцель сьпеваў, ды тры вучыцелі-латышы — настаўнікі латыскай, лацінскай і нямецкай моваў. Вы, гр. Міністр, маглі-б патрабаваць ад гімназіі замяніць няпоўнапраўных вучыцялёў поўнапраўнымі, але не зачыняць дзеля гэтага гімназію. Наагул гэты недахоп паступова выпраўляецца, бо з кожным годам павялічваецца лік беларусаў, скончыўшых Латвійскі і замежныя унівэрсытэты.

5. Ваш закід, гр. Міністр, у тым, што ў Дзьвінскай Беларускай гімназіі пануе процідзяржаўны настрой, ёсьць абраза для ўсей беларускай меншасьці, як самай лёяльнай меншасьці ў Латвіі, і для гэтай абразы няма ніякай канкрэтнай падставы. Ня можна апірацца толькі на тайных вестках Палітычнага Упраўленьня, з якімі гэта ўстанова ня можа выступіць адкрыта, таму што ня мае для іх ніякай падставы. Па невядомых для нас прычынах Палітычнае Упраўленьне ўжо пробавала адчынена абвінавачываць некаторых беларусаў у анцідзяржаўным настроі і нават некаторых ужо арыштовывала, але незалежны Латвійскі суд, за адсутнасьцьцю віны, ўсіх

гэтых абвінавачаных апраўдываў. Камуністы агітуюць усюды, таксама і сярод беларускай моладзі па-за-школай, але сярод іх няма большага пасьпеху, чым сярод іншых нацыянальнасьцяў у Латвіі. Правідлова толькі тое, што гэты Ваш, гр. Міністр, удар па беларускіх культурных правох у Латвіі, бяз усякага сумленьня, выкліча вялікае незадаваленьне сярод беларусаў і многа пашкодзіць добрым адносінам паміж латышамі і беларусамі ў будучыне.

6. Таксама зьяўляецца безпадстаўным Ваш, гр. Міністр, закід у тым, што ў Дзьвінскай Беларускай гімназіі 75% вучняў звальняліся ад платы за навуку, таму што на дзяржаўны кошт звальняліся 46-48%, а ўсе іншыя — за кошт Школьнай Рады і на прыватныя сродкі саміх вучыцялёў. Такі ўчынак Школьнай Рады і вучыцялёў па нашай думцы заслуговывае толькі пахвалы, а не ганьбы, таму што без такой грамадзкай дапамогі дзеці незаможных беларускіх бацькоў ніколі не змаглі-б атрымаць сярэднюю адукацыю, і, застаючыся неадукаванымі, толькі павялічывалі-б глебу для процідзяржаўнае агітацыі. —

Спасылаючыся на ўсё вышэймоўленае, Надзвычайны сход „Т-ва Беларускіх вучыцялёў у Латвіі“ зьвяртаецца да Вас, гр. Міністр, з просьбай, ці ня можна было-б, у імя ўзмацаваньня добрых узаемаадносінаў паміж латыскім народам і беларускай меншасьцю ў Латвіі, яшчэ раз перагледзіць Ваша распараджаньне аб паступовай ліквідацыі Дзьвінскай Беларускай гімназіі і пакінуць яе і надалей ў поўным складзе клясаў.

У Дзьвінску Беларуская гімназія найбольш патрэбна, таму што ў Дзьвінскім павеце знаходзіцца найбольшы лік беларускіх жыхароў, якія па сваей незаможнасьці ні ў якім разе ня змогуць пасылаць сваіх дзяцей у Рыскую прыватную Беларускую гімназію.

Ад імя Надзвычайнага Агульнага Сходу сяброў Таварыства Беларускіх Вучыцялёў у Латвіі:

Старшыня Т-ва — **Грыгор Плыгаўка.**

Сябры Цэнтральнага Праўленьня: **Аляксандр Родзька, Аркадзь Рытаў**, сакратар — **Міхась Калінін.**

Рыга, 26 жніўня 1932 году.

## Гутарка беларускае дэлегацыі з грамадзянінам Міністрам Асьветы.

**(Справаздача сяброў дэлегацыі «Т-ва Беларускіх вучыцялёў у Латвіі»).**

Дэлегацыя „Т-ва Беларускіх вучыцялёў у Латвіі“, у складзе: старшын Т-ва — Грыгора Плыгаўкі, намесьніка старшыні — Аляксандра Родзькі, сакратара Т-ва — Міхася Калініна і сябры Праўленьня — Аркадзя Рытава, — у панядзелак 29 жніўня г.г. адведала Міністра Асьветы, гр. А. Кеніня. Дэлегацыя чакала прыйма у гр. Міністра цэлых 2 гадзіны, ад 1-е да 3-е гадзіны дня. У 3 гадзіны Міністр сам расчыніў дзьверы свайго габінэту і голасна сказаў: „Baltkrievu skolotāju delegaciju lūdzu ienākt!“ („Прашу увайсьці дэлегацыю беларускіх вучыцялёў“).

Міністр ветліва пацісnуў усім руку і запрасіў сесьці.

Старшыня Т-ва гр. Плыгаўка распачаў гутарку. У кароткіх словах ён абмаляваў сучасны стан Дзьвінскае гімназіі, якая усё лета рэгістравала вучняў і вяла звычайную працу да падрыхтоўкі новага навуч. году, і, раптам, перад самым пачаткам заняткаў, дэкрэтам Міністра Асьветы загадана гімназію паступова ліквідаваць, а першую клясу, у якой у гэтым годзе зарэгістравана аж 32 вучні, зараз-жа

ная ім у 1921 годзе, заваявала яму агульныя сымпатыі беларускае меншасьці і вызнаньне латвійскіх грамадзкіх і ўрадовых установ, як у правінцыі так і ў Рызе. Трэба тутака адзначыць, што Т-ва ў працягу ўсяго 1921 году працавала выключна на тыя сродкі, што зьбірала сярод сваіх сяброў і ніякае дапамогі ні ад Ураду, ні ад самаўрадаў не атрымоўвала, ды і не прасіла (за выключэньнем невялічкае дапамогі на першыя Курсы Беларусазнаўства). Вось чаму, калі 4 сьнежня 1921 году Цэнтральнае Праўленьне Т-ва „Бацькаўшчына“ зьвярнулася да Культурнага Фонду з просьбай аб грашовай дапамозе, дык яму даволі хутка прысуджана была дапамога ў суме 1000 латаў.

Першую палову 1922 году Цэнтральнае Праўленьне Т-ва было вельмі занята арганізацыяй Люцынскай гімназіі і Дзьвінскай сельска-гаспадарчай школы, а таксама клопатамі, зьвязанымі з арганізацыяй Дзьвінскае гімназіі і Дзьвінскае аснаўное школы, ды змаганьнем за лёс беларускіх аснаўных школ у Люцыну і Краслаўцы. Таму чарговы Агульны гадавы сход сяброў Т-ва змог адбыцца толькі ў восені, 17 верасьня, калі ўсе арганізацыйныя справы былі ўжо закончаны і ў беларусаў у Дзьвінску ўжо аказалася адрамантаваным сваё ўласнае памешканьне ў будынку Беларускае гімназіі на Варшаўскай вуліцы № 16.

Агульны сход 17 верасьня 1922 году аказаўся вельмі многалюдным, бо лічба сяброў у працягу 1921-22 году працы Т-ва значна ўзрасла і праца Т-ва ахапіла ўжо ня толькі Дзьвінск, але і іншыя гарады ды шмат валасьцей Латгаліі. Старое Цэнтральнае Праўленьне, зрабіўшы даклад аб сваей працы, склала паўнамоцтвы і папрасіла замяніць яго новымі сіламі*).

Агульны Сход дзякаваў Цэнтральнае Праўленьне за ўдала праведзеную значную працу і абраў новае Цэнтральнае Праўленьне ў гэткім складзе: старшыня — Я. Краскоўскі, заступнік старшыні — К. Езавітаў, сакратар — П. Мядзёлка-Грыб, скарбнік — Ул. Корці, заступнік скарбніка — А. Якубецкі. Заслухаўшы даклад аб дапамозе, зробленай беларускай меншасьці з боку гр. Яна Райніса, Агульны Сход ушанаваў яго прывітальнай тэлеграмай і, на знак пашаны і падзякі, адначасна абраў яго ганаровым сябром Т-ва „Бацькаўшчына“.

Вельмі цікавым, для ацэнкі агульнага ўзросту беларускае нацыянальнае сьвядомасьці сярод сяброў Т-ва „Бацькаўшчына“ ў 1922 годзе, было няўдалае выступленьне на Агульным Сходзе 17 верасьня вядомага ў Дзьвінску грамадзкага дзеяча, агранома Садоўскага. Гэты грамадзянін, вызнаючы сябе беларусам і зьяўляючыся сябром Т-ва „Бацькаўшчына“, адначасна лічыў магчымым браць удзел ў працы расейскіх арганізацый і актыўна выступаў супроць закладзінаў у Дзьвінску беларускае мястовае школы на роднай бе-

*) Першае Цэнтральнае Праўленьне Т-ва „Бацькаўшчына“ складалася з гэткіх грамадзян: старшыня — Ян Харлап, заступнік старшыні К. Езавітаў, скарбнік — М. Хмялеўскі, сакратар — П. Паўчар і заступнік сакратара — П. Дзяменцьяў. Па ад'ездзе П. Паўчара у Літву ягонае мейсца заступіў кандыдат — А. Васільеў, а па выхадзе з праўленьня П. Дзяменцьява, на ягонае мейсца быў кааптаваны Эдвард Будзька. З прыездам у Дзьвінск гр. Я. Краскоўскага, увясну 1922 году, ён таксама быў закааптаваны у склад Цэнтральнага Праўленьня.

## Беларускае Культурна-Асьветнае Таварыства „Бацькаўшчына“ у Латгаліі і ягоная роля ў справе стварэньня беларускае школы ў Латвіі.

(Канец).

Кіраўніком - арганізатарам Беларускае сельска - гаспадарчае школы быў зацьверджаны высунуты Т-вам кандыдат, беларускі агроном гр. Аляксей Ластаўкін, які дужа энэргійна павёў справу і ўжо ўвясну 1922 году падрыхтаваў памешканьне, у будынку Мельнікава на Шасейнай вуліцы, распачаў абарудаваньне яго інвэнтаром, зарэгістраваў вучняў і павёў з імі падрыхтоўчыя групавыя заняткі. Увосені 1922-23 навуч. году ў школе пачаліся заняткі адразу на двух курсах, і Міністэрства Земляробства запрапанавала аплаціць яшчэ аднаго агранома, з вышэйшаю агранамічнаю адукацыяй. У зьвязку з гэтым Т-ва запрасіла на працу ў школу вучонага агранома, гр. Абэле, які адначасна з гэтым прыняў на сябе кіраваньне школаю і выкладаньне дзяржаўнае мовы. Выкладчыкам беларускае мовы, гісторыі Беларусі і гісторыі беларускае літаратуры была запрошана гр. Паўліна Вікеньцьцеўна Мядзёлк-Грыб, якая прарабіла ў школе вялікую ўзгадаваўчую працу.

Праца беларускае сельска-гаспадарчае школы ішла ў працягу двух год ў Дзьвінску, а затым была перанесена бліжэй да беларускае вёскі, у г. Краслаўку.

Другую беларускую сельска-гаспадарчую школу Т-ва намячала закласьці ў Люцынскім павеце пры Залескай беларускай асnaўной школе, якая зьмяшчалася ў дужа выгадным для гэтае школы мейсцу і мела адпаведны будынак. Нажаль, зьдзейсьніць гэтае думкі Т-ву не давялося з-за адсутнасьці сродкаў і па іншых, незалежных ад Т-ва варунках.

Справа з вышэйшаю асьветаю для беларускае моладзі стаяла ў 1921 годзе надзвычайна трагічна. Тая беларуская моладзь, што скончыла ў гэтым і папярэдніх гадох расейскія сярэднія школы, ня мела магчымасьці вучыцца далей, бо ў Латвійскі Унівэрсытэт, ня ведаючы латыскае мовы, паступіць не магла, а выехаць вучыцца за-межы ня мела магчымасьці па эканамічных прычынах. Каб даць моладзі гэтага пакаленьня выхад, Т-ва „Бацькаўшчына„ навязала зносіны з беларускімі грамадзкімі арганізацыямі ў Празе-Чэскай і, праз іх, дабілася для беларускіх абітурыэнтаў з Латвіі некалькіх стыпэндый у вышэйшых школах Чэха-Славацкае Рэспублікі.

Пачынаючы з восені 1921 году, беларуская студэнцкая моладзь з Латвіі, — штогод, у працягу некалькіх гадоў, выяжджала ў Прагу, дзе з дапамогаю Праскае Беларускае Рады, яе старшыні, Міколы Вяршыніна і паўстаўшых у Празе беларускіх студэнцкіх арганізацый, разьмяшчалася на вольныя вакансыі ў чэскіх вышэйшых школах. Зара‘, на дзесятыя ўгодкі, мы ўжо маемо шэраг маладых беларускіх інжанэраў і дахтароў, якія з посьпехам закончылі курс вышэйшых навук у Празе і зьвярнуліся працаваць у Латвію.

Тым часам новае пакаленьне беларускае моладзі, што заканчывала ў апошнія гады беларускія гімназіі, ужо ў належнай меры асвоілася з латыскаю моваю і можа трымаць конкурсныя іспыты ў Латвійскі Унівэрсытэт.

Шырокая асьветная праца Т-ва „Бацькаўшчына“, праведзе-

Выпадкова знойдзеныя прадметы старажытнасьці цаніліся і ім надавалася асабліва важнае значаньне. Як на прыклад такога адносіньня да старажытнасьці можна спаслацца на наступнае. У 1790 годзе ў Добрых Мазарах, уваходзіўшых тады, як і ўся Віцебшчына, у склад Полацкага ваяводзтва, быў выкапаны касьцяк, а разам з ім і розныя прадметы старажытнасьці. Уладар Мазараў, Робэрт Бржастоўскі, czesnik Wielkego Ksienstwa Litewskiego*), усё гэта адаслаў каралю Станіславу Аўгусту. Каранаваны археолёг зацікавіўся знаходкай, і з поваду яе пачалася паміж каралём і Р. Бржастоўскім перапіска. У выніку кароль узнагарадзіў Р. Бржастоўскага ордэнам сьвятога Станіслава**).

Першымі зьбіральнікамі старажытнасьці на Віцебшчыне зьяўляюцца айцы езувіты. У 1780 годзе ў музэю Полацкай Езувіцкай калегіі, сярод іншых музэйных экспанатаў, знаходзімо нават прадметы дагістарычнай старажытнасьці***).

Пасьля далучэньня Беларусі да Расеі, на Віцебшчыне атрымалі сілу ўсе вышаўшыя да гэтага часу, агульныя для Расейскай дзяржавы, распараджаньні аб ахове помнікаў старажытнасьці. Пачаткам іх быў загад Пётры Вялікага ў 1718 годзе: „Даваць узнагароду за знойдзеныя рэчы: каменьні, косьці, стрэльбы, начыньне, што вельмі старое і надзвычайнае“. Гэта была першая ў Расеі спроба паставіць помнікі старажытнасьці пад ахову дзяржаўнай улады. Акрамя гэтага асноўнага наказу, быў яшчэ шэраг іншых. Меўся загад імпэратрыцы Ганны Янаўны 1732 году — „Срэбныя і залатыя выдатныя рэчы і маючыяся ў дзяржаўных установах, пакінутыя дзеля курыёзытэту, перадаць у Палату Майстроўства“. Было распараджаньне 1737 году — „Адсылаць у Палату майстроўства, з канфіскаванага скарбу, каштоўныя альбо працаю выдатныя прылады: конскае ўбраньне, дыямэнтавыя і іншых каменьняў рэчы“.

Пры тэй жа імпэратрыцы Ганны гісторыкам Тацішчавым была складзена інструкцыя дзеля зьбіраньня вестак географічных, этнографічных і археолёгічных. Гэтая інструкцыя была прынята Акадэміяй Навук і разаслана па губэрням. Існаваў таксама наказ імпэратрыцы Альжбэты Пятроўны 1759 году, аб дастаўленьні ў Акадэмію Навук гістарычных апісаньняў і плянаў манастыроў, і наказ імпэратрыцы Кацярыны II, якім загадвалася ва ўсіх манастырох скласьці сьпіс царкоўнай і манастырскай маёмасьці. У яе ж панаваньне акадэмік Ляпёхін, вандруючы па Беларусі, пачынае ўносіць у свае зацемкі ўсё, што спатыкаў выдатнага з боку старажытнасьці****).

Вось тыя галоўныя распараджаньні і мерапрыемствы ў адносіньні аховы помнікаў старажытнасьці, якія існавалі ў Расеі, пад час далучэньня да яе Віцебшчыны.

У пачатку XIX стагодзьдзя ў Расеі былі зроблены першыя

*) Пры двары беларуска-літоўскіх князёў існавалі свае тытулы для прыдворнае знаці. Р. Бржастоўскі меў тытул „чашніка“ вялікага князя.

**) Wiadomosci numizmatyczno-archeologiczne, Krakow, 1892, 285—289.

***) В. Викентьевъ, Полоцкій кадетскій корпусъ, Полоцкъ, 1910, 27—28.

****) Матеріалы по вопросу о сохраненіи древнихъ памятниковъ, собраные Московскимъ Археологическимъ Обществомъ, Москва, 1911.

И. Даниловъ. Правительственныя распоряженія относительно отечественныхъ древностей.

Вѣстникъ археологіи и исторіи, С. Петербургъ, 1886, VI.

ларускай мове*). Каб адзначыць ідэёвую рожніцу сваей пазыцыі ад пазыцыі сьвядомых беларускіх адраджэнцаў, ён называў сябе „беларусам 2-й катэгорыі" і вёў прапаганду за адмову беларусаў ад сваей мовы ў школе на карысьць мовы расейскай. З гэтымі сваімі здрадніцка-ассіміляцыйнымі ідэямі зьявіўся ён і на Агульны Сход сяброў Т-ва, але тутака спаткалі яго такім дружным адпорам і далі такую войструю адповедзь, як здрадніку, што ён павінен быў пакінуць сход, а за ім і Т-ва.

З уваходам у Цэнтральнае Праўленьне Т-ва „Бацькаўшчына" дырэктара гімназіі, гр. Я. Краскоўскага, і трох вучыцялёў гэтае гімназіі, — П. Мядзёлка-Грыб, А. Якубецкага і Ул. Корці, — базаю Т-ва зрабілася Дзьвінская Дзяржаўная Беларуская гімназія. Былі ў гэтым некаторыя тэхнічныя выгады, бо лягчэй і часьцей магчыма было зьбірацца на сходы, але былі і значныя заганы, якія хутка аслабілі энэргійную напружанасьць працы Т-ва. Галаўнейшым заганам было тое, што дырэктар і настаўнікі гімназіі, занятыя арганізацыйнай гімназыяльнай працай дужа хутка страцілі маштаб працы Т-ва і перасталі адрожніваць, дзе канчаюцца гімназіяльныя інтарэсы і пачынаюцца інтарэсы Т-ва і ўсяе беларускае меншасьці.

Дзеля таго, што галоўнаю тэмаю гэтага артыкулу зьяўляецца разгляд ролі Т-ва „Бацькаўшчына" ў справе арганізацыі беларускіх школ у Латвіі, дык аўтар ня лічыць магчымым у гэтым юбілейным нарысе больш падрабязна спыняцца на далейшай працы Т-ва, а таксама і на тых падзеях і абставінах, якія паўсталі ў жыцьцю беларускае меншасьці, ў зьвязку з вядомым Беларускім Працэсам 1924-25 году, якія прывялі да заняпаду і спыненьня працы Т-ва „Бацькаўшчына" ў Латгаліі.

**К. Езавітаў.**

## Ахова помнікаў старажытнасьці на Віцебшчыне.

(З матар'ялаў Беларускага Навукова-Краязнаўчага Таварыства у Латвіі).

На шмат якія помнікі старажытнасьці народ зьвяртаў сваю ўвагу ўжо з даўных часоў. У дакумэнтах Віцебшчыны XVI—XVIII стагодзьдзяў трапляюцца даволі часта назовы: „ґарадзішча", „гарадзец", „валатоўка", „курган", „магільнік", „насып", „камень-крыж" і г. д.**).

У Вялікім Князьстве Беларуска-Літоўскім, у склад якога ўваходзіла і Віцебшчына, нараўне з мерамі па ахове пісьменных помнікаў мінулага, выяўлялася руплівасьць да захаваньня таксама і матар'яльных помнікаў старажытнасьці. Мясцовая ўлада сачыла за захаваньнем больш выдатных з гэтых помнікаў старажытнасьці, прыцягваючы вінаватых у іх зьнішчэньні да судовай адказнасьці. Гэтак, у 1765 годзе, па ініцыятыве падваяводы Полацкага, Траяна Корсака, паўстала справа па абвінавачваньню базыльян у руйнаваньню вала Полацкага замку***).

*) Больш падрабязна глядзі ў кнізе аўтара „Беларусы у Латвіі" ст. 85.

**) Историко-юридическіе матеріалы, извлеченные изъ актовыхъ книгъ губерній Витебской и Могилевской, хранящихся вь Центральномъ Архивѣ въ Витебскѣ, Витебскъ, XXI, XXII, XXIII, XXIV, XXVI.

***) Археологическій Сборникъ документовъ, относящихся къ исторіи Сѣверо-Западной Руси, Вильно, 1874, X, 347.

інакш, як праз Цэнтральнае Праўленьне, дзеля чаго сябрам Т-ва, якія жадаюць унясьці якое небудзь пытаньне на абгаварываньне Агульнаму сходу, належыць пісьменна зьвяртацца аб гэтым да Цэнтральнага Праўленьня не пазьней як за 10 дзён да скліканьня Агульнага сходу.

§ 31. Кожны сябра Т-ва на Агульным сходзе мае права толькі аднаго голасу, пры чым ён ня можа аддаць права голасу іншай асобе, а павінен прыймаць удзел у галасаваньні пэрсанальна.

§ 32. Пытаньні Агульны сход вырашае простай большасьцю галасоў прысутных сяброў. Пытаньні аб выбары ганаровых сяброў, аб выключэньні сяброў, зьменах і папаўненьнях статуту, адсоўваньні членаў Цэнтральнага Праўленьня і Рэвізыйнае камісіі да концу таго тэрміну, на які яны абраны, вырашаюцца большасьцю ²/з галасоў прысутных сяброў. Калі галасы дзеляцца на роўныя часткі у пытаньнях, якія вырашаюцца простай большасьцю галасоў, пытаньне лічыцца ня вырашаным.

§ 33. Усе выбары на Агульным сходзе, як і пытаньні аб выключэньні сяброу з Т-ва, прызначэньню узнагароджаньня, адсоўваньню членаў Цэнтральнага Праўленьня і Рэвізыйнае камісіі да концу таго тэрміну, на які яны абраны, вырашаюць патаемным галасаваньнем. Ва усіх іншых выпадках род галасаваньня вызначае агульны сход.

§ 34. Пратакол Агульнага сходу запісываюць у асобны журнал і падпісывае старшыня, прысутныя члены Цэнтральнага Праўленьня і Рэвізыйнае камісіі і сэкратар Агульнага сходу.

## VIII. Цэнтральнае Праўленьне.

§ 35. Цэнтральнае Праўленьне рэпрэзэнтуе Беларускае Навукова - Краязнаўчае Таварыства без асаблівага на гэта паўнамоцтва ува ўсіх яго справах, абавязках і зносінах з установамі і староньнімі асобамі. Абавязкі Цэнтральнага Праўленьня і яго асобных членаў, парадак іх працы і межы правоў прызначае інструкцыя, якая прынята і зацьверджана Агульным сходам. Цэнтральнае Праўленьне знаходзіцца у Рызе.

§ 36. Асаблівы абавязак Цэнтральнага Праўленьня ёсьць:

а) прызначаць парадак рэфэратаў і дакладаў сяброў і супрацоўнікаў Т-ва;
б) закладаць сэкцыі і камісіі для распрацоўкі паасобных навукова-краязнаўчых пытаньняў;
в) арганізоўваць, наглядаць за працаю і утрымоўваць прадугледжаныя статутам установы Т-ва;
г) упляновываць навукова-краязнаўчую працу Т-ва, яго аддзелаў, камісій і паасобных сяброў;
д) заключаць ад імя Т-ва рожнага роду умовы, набываць і адчужаць маёмасьць;
е) бараніць інтарэсы Т-ва у дзяржаўных, судовых і адміністратыўных установах;
ж) абіраць прадстаўнікоў Т-ва у іншыя таварыствы і грамадзкія арганізацыі
з) атрымліваць і выдаваць грошы, захоўваць Т-ву належачую і давераную маёмасьць, каштоўныя рэчы і грошы;
і) складаць інструкцыі усім аддзелам Т-ва і прадстаўляць іх Агульнаму сходу;
к) складаць прыбытковы і выдатковы буджэт, плян дзейнасьці, гадавую справаздачу і прадстаўляць іх разам з заключэньнем Рэвізыйнае камісіі на зацьверджаньне Агульнаму сходу;
л) вясьці бухгальтэрыю і дзелаводства;
м) прыймаць новых сяброў;
н) вясьці іншыя справы, датычныя да гэтага статуту і правілаў прынятых Агульнымі сходамі.

§ 37. Цэнтральнае Праўленьне складаецца з 5 членаў, якіх выбіраюць зачыненым галасаваньнем на Агульным сходзе з ліку сяброў Т-ва на адзін год. У Цэнтральнае Праўленьне могуць быць абраны толькі выключна Латвійскія грамадзяне. У тым самым парадку і на той самы час абіраюцца яшчэ 3 кандыдаты.

§ 38. Агульны сход можа надаць Цэнтральнаму Праўленьню права кааптаваць сяброў Т-ва з правам вырашаючага голасу у склад Цэнтральнага Праўленьня, пры чым лічба кааптаваных сяброў ня можа быць вялікшай за лічбу членаў Цэнтральнага Праўленьня, абраных Агульным сходам.

§ 39. Цэнтральнае Праўленьне можа запрашаць на свае паседжаньні і іншых, патрэбных на пагляд Цэнтральнага Праўленьня, асоб, але з правам дарадчага голасу.

§ 40. Кандыдаты выконываюць абавязкі тых членаў, якія выступілі да концу таго тэрміну, на які яны абраны, ці па прычыне хварасьці ці якога іншага здарэньня ня могуць быць прысутнымі на паседжаньнях Цэнтральнага Праўленьня, пры чым кандыдаты приступаюць да выкананьня абавязкаў членаў пасьля атрыманьня большасьці галасоў у галасаваньні.

§ 41. Члены Цэнтральнага Праўленьня штогодна, пасьля Агульнага сходу, абіраюць з паміж сябе старшыню, які лічыцца таксама старшынёй Беларускага Навукова-Краязнаўчага Т-ва, намесьніка старшыні, скарбніка і сэкратара.

§ 42. Цэнтральнае Праўленьне зьбіраецца ня менш разу у месяц. Аб часе паседжаньня Цэнтральнага Праўленьня

крокі да рэгістрацыі помнікаў. Увага вучоных пакуль-што была зьвернута на гарадзішчы. У 1822 годзе Зар'ян Доленга-Хадакоўскі складае: „Указаніе (обозрѣніе) славянского городства въ Сѣверо-Западной Россіи“, у якое было залічана 135 „гарадкоў, гараднёў, горадзёнак і гарадзішч“ Віцебшчыны*).

Рашучыя і запраўдныя меры да аховы помнікаў старажытнасьці былі ўжыты імпэратарам Мікалаем І. Наказ яго ад 31 сьнежаня 1826 году трэба лічыць галоўным актам**) расейскага заканадаўства ў гэтым пытаньню.

Актам гэтым загадвалася безадкладна сабраць весткі: „у якіх гарадох ёсьць астаткі старажытных замкаў і цытадэляў, альбо іншых будынкаў старажытнасьці, і ў якім становішчу яны знаходзяцца“. Далей казалася: „Воля Яго Вялікасьці ў той жа час ёсьць, каб найстражэй было забаронена гэткія будынкі руйнаваць, што і павінна заставацца на адказнасьці начальнікаў гарадоў і мясцовае паліцыі“. Аб здабываемых з мейсц вестках міністар унутрашніх спраў абавязаны быў паведамляць цара па меры іх паступленьня.

У той жа час загадана было зрабіць пляны гістарычных будынкаў і фасады іх, у тым стане, у якім яны знаходзяцца; адшукаць у архівах губэрнскіх устаноў, у гарадзкіх запісах мінулага часу і патрабаваць ад іншага начальства, якога-б званьня яны ня былі, падрабязныя весткі аба ўсіх вышэй успамянёных будынках: калі і кім яны пабудаваны, альбо перабудаваны, з якога выпадку, альбо дзеля якога намеру; калі яны ня цэлыя, дык наколькі, калі і чаму яны зруйнаваны; з якога матар'ялу пабудаваны; якія ў іх ёсьць вартыя ўвагі ці адменныя рэчы, альбо часткі іх знаходзяцца; у якім яны зараз стане; у чыім уладаньні і дзеля чаго ўжываюцца; і, нарэшці, ці можна іх падтрымаць папраўкай, не зьмяняючы іх старадаўных плянаў і фасадаў.

(Працяг будзе).

**Б. Брэжго.**

# Статут Беларускага Навукова-Краязнаучага Т-ва у Латвіі.

(Канец).

§ 28. **Агульны сход мае права:**
а) праглядаць і сьцьвярджаць плян дзейнасьці, прыходны і расходны буджэты,
б) абіраць членаў Цэнтральнага Праўленьня і Рэвізыйнае камісіі,
в) праглядаць і сьцьвярджаць справаздачы Цэнтральнага Праўленьня,
г) вырашаць паданыя Агульнаму сходу скаргі на Цэнтральнае Праўленьне і Рэвізыйную камісію,
д) адсоўваць членаў Цэнтральнага Праўленьня і Рэвізыйнае камісіі да концу тэрміну, на які яны абраны,
е) прызначаць узнагароджэньне членам Цэнтральнага Праўленьня,
ж) абіраць ганаровых сяброў Т-ва,
з) выключаць сяброў Т-ва,
і) зьмяняць і папаўняць статут,
к) вырашаць пытаньне аб ліквідацыі працы Т-ва,
л) вырашаць іншыя пытаньні, маючыя датычэньне да прадугледжанай у статуце працы Т-ва.

§ 29. Агульны сход выбірае са свайго складу старшыню, які не ўваходзіць у склад Цэнтральнага Праўленьня і Рэвізыйнае камісіі, а таксама і сэкратара для вядзеньня пратаколу. Агульны сход адчыняе старшыня ці яго намесьнік.

§ 30. Справы, якія вырашаюцца на Агульным сходзе, падаюцца сходу не

*) М. Погодинъ. Древняя Русская исторія до монгольскаго ига, Москва, 1871, I ч. 1, листъ 4.

**) Полное Собраніе законовъ Россійской Имперіи I, № 794.

## Гутарка беларускае дэлегацыі з грамадзянінам Міністрам Асьветы.

(К а н е ц).

кажа будучыня. Існаваньне Рыскае гімназіі бязумоўна патрэбна беларускаму жыхарству гор. Рыгі і яно прыложыць усе высілкі, каб Рыская беларуская гімназія разьвілася і умацнілася, але існаваньне прыв. Рыскай беларускай гімназіі ня можа зьяўляцца прычынай зачыненьня Дзьвінскай гімназі і ня зможа замяніць апошняй. Дэлегацыя зазначыла, што як раз гімназія у Дзьвінску, а не дзе-колечы у іншым мейсцы, найбольш патрэбна беларускай меншасьці, бо у Латгаліі, у ваколіцах Дзьвінску, пражывае $^{2}/_{3}$ усяго беларускага жыхарства у Латвіі. А таму беларуская гімназія у Дзьвінску і была зусім натуральным цэнтрам беларускае культурна-асьветнае працы у Латвіі. Што у Дзьвінскай беларускай гімназіі ровень веды яе вучняў у дзяржаўнай мове і інш. прадмэтаў нізкі, гэта не адпавядае сапраўднасьці, аб чым сьведчыць той факт, што абітурыэнты Дзьвінскай гімназіі паступалі як у замежныя, гэтак і у Латвійскі унівэрсытэты, дзе вытрымоўвалі конкурсныя іспыты па латыскай мове і агульным прасьветным прадметам. Дэлегацыя зьвярнула увагу міністра і на тое, што адзін з прысутных у дэлегацыі грамадзян, зусім вольна размаўляўшы з гр. міністрам, як раз сам зьяўляецца былым вучням Дзьвінскай гімназіі, а зара' студэнтам Латвійскага Унівэрсытэту і Консэрваторыі. У сучасны момант Дзьвінская гімн. мае у радох сваіх абітурыэнтаў выхаванцаў Латвійскага Унівэр., Консэрваторыі, Акадэміі Мастацтва і афіцэраў, скончыўшых Латв. вайсковую школу. Што тычыцца непоўнапраўных вучыцялёў, дык гэта зьявішча часовае, папраўімае і не такое катастрафічнае, як гэта выходзе у асьветленьні гр. міністра. Неправідловым зьяўляецца названы лік непоўнапраўных вучыцялёў, а ласьне: у Дзьвінскай беларускай гімназіі працуе усяго 15, а не 17 вучыцялёў, з якіх толькі 3 непоўнапраўных вучыцелі белар. нацыянальнасьці, а 3 непоўнапраўных вуч. латышы, зьяўляюцца прызнанымі спэцыялістамі сваіх прадмэтаў і адначасова з посьпехам працуюць і у іншых гімназіях Дзьвінску.

Выслухаўшы усе гэтыя довады і крыху памаўчаўшы, міністр перайшоў на агульныя тэмы аб становішчу Латгаліі і Дзьвінску з пункту гледжаньня нацыянальна-культурнага і палітычнага. Ен адзначыў, што у Дзьвінску надта мала латыскага духу і што там пануе меншасьцёвае засільле. Паспрабаваў міністр ахарактарызаваць і паасобныя нацыянальнасьці Латвіі: палякаў — міністр лічыць вялікімі нацыяналістамі, але надта лёяльнай меншасьцю; жыдоў — крайне нелёяльнай; беларусы-ж зьяўляюцца невыразнымі і няпэўнымі у партыйным сэнсе. Тут міністр зноў спаслаўся на палітычную паліцыю, якая зрабіла яму вышэй успамінанае ужо данясеньне на беларускую гімназію у Дзьвінску.

На запытаньне аднаго з дэлегатаў у каго зьявілася ініцыятыва напісаньня гэтага данясеньня: ці сама палітычная паліцыя прыслала данос міністру, ці ён запытываў палітычную паліцыю. Міністр адказаў, што ён сам запытаў Упраўленьне палітычнае паліцыі, якое і прыслала яму дыскрэтуючыя весткі.

Дэлегацыя выказала сваё абурэньне з повады наступаньня палітычнае паліцыі, якая здаўна ужо спрабуе закінуць беларускай меншасьці у Латвіі абвінавачваньне у палітычнай небясьпечнасьці, якой беларусы аднак не хварэюць. Зразумела, што калі сам міністр запытывае у іх вестак аб палітычнай небясьпечнасьці Дзьвінскае беларускае гімназіі, дык палітычная паліцыя не паскупілася на нэгатыўныя весткі, гэтым жадаючы паказаць перад міністрам і перад Урадам сваё стараньне і працу.

Заканчываючы гутарку з міністрам, якая цягнулася цэлую гадзіну, дэлегацыя „Т-ва беларускіх вучыцялёў перадала яму прынятую 26 і 27 жніўня надзвычайным агульным сходам сяброў Т-ва рэзалюцыю і зноў прасіла міністра узяць сваё распараджаньне назад і пакінуць Беларускую Дзьвінскую гімназію і надалей існаваць пры поўным ліку клясаў.

Міністр Асьветы згодзіўся з некаторымі довадамі беларускай дэлегацыі, але на аднаўленьне Дзьвінскай гімназіі не згаджаўся, зазначыўшы, што можа быць гутарка толькі аб палепшаньні стану беларускіх вучняў, якія перавядуцца у Рыскую гімназію, шляхам арганізаваньня для апошніх інтэрнату. Для тых вучняў, якія перайдуць у Дзьвінскую латыскую гімназію, калі іх зьбярэцца адпаведны лік, можна будзе увесьці у гэтай гімназіі прадметы беларусазнаўства. Як толькі Дзьвінская гімназія будзе зьліквідавана, міністр мае намер прыняць Рыскую Беларускую гімназію на урадовае утрыманьне і наагул — „дапамагчы уселякім пачынаньням беларусаў у Рызе, наколькі будзе магчымым“. Рыскую гімназію міністр лічыць маючай усе асновы для далейшага пасьпяховага разьвіцьця.

**Г. Плыгаўка, А. Родзька, А Рытаў, М. Калінін.**

вывешываецца абвестка у памешканьні Праўленьня. Паседжаньні Цэнтральнага Праўленьня маюць права пастаноў, калі у іх прыймаюць удзел ня менш 3 сяброў, у тым ліку старшыня ці яго намесьнік. Пытаньні Цэнтральнага Праўленьня вырашаюцца большасьцю галасоў.

§ 43. У паседжаньнях Цэнтральнага Праўленьня маюць права прыймаць удзел старшыні аддзелаў Т-ва у правінцыі, старшыні сэкцый і камісій пры Цэнтральным Праўленьні, а таксама кіраўнікі рожных устаноў Беларускага Навукова-Краязнаўчага Т-ва, закладзеных на аснове § 2 гэтага статуту. Усе пералічаныя грамадзяне маюць права дарадчага голасу за выключэньнем тых з іх, якія будуць кааптаваны у склад Цэнтральнага Праўленьня на аснове § 38.

§ 44. Пастанова Цэнтральнага Праўленьня упісываецца у пратакольную кнігу і падпісываецца членамі. Паўнамоцтвы, умовы і іншыя акты, таксама і паперы у рожныя установы з запросамі на грошы, падпісываюцца старшынёй Т-ва ці яго намесьнікам і адным членам Праўленьня.

## IX. Рэвізыйная Камісія.

§ 45. Агульны сход сяброў Беларускага Навукова - Краязнаўчага Таварыства абірае Рэвізыйную камісію дзеля пераляду справаздач і касы, а таксама дзеля рэвізаваньня спраў Т-ва.

§ 46. Рэвізыйная камісія складаецца найменш з 3 сяброў і 2 кандыдатаў, якіх абірае Агульны сход зачыненым галасаваньнем на адзін год з сяброў Т-ва, якія не уваходзяць у склад членаў Цэнтральнага Праўленьня і не займаюць пасады у Т-ве.

Увага 1: Лічбу членаў Рэвізыйнае камісіі і яе кандыдатаў прызначае Агульны сход.

Увага 2: У абіраньні Рэвізыйнае камісіі ня могуць прыймаць удзелу ні члены Цэнтральнага Праўленьня, ні асобы, прынятыя на службу Т-ва.

§ 47. Члены Рэвізыйнае камісіі, пасьля свайго абраньня, выдзяляюць з паміж сябе старшыню, абавязак якога ёсьць склікаць паседжаньні камісіі і кіраваць імі. Паседжаньні Рэвізыйнае камісіі правамоцны, калі у іх прыймаюць удзел ня менш як $^{2}/_{3}$ з усіх членаў. Аб паседжаньнях паведамляецца пісьменна за тры дні.

§ 48. Спэцыяльны абавязак Рэвізыйнае камісіі ёсьць:

а) пэрыядычна праглядаць грашовыя сродкі Т-ва і рожнага віда маёмасьць і зьлічаць іх з кнігамі і рахункамі;

б) прадстаўляць Агульнаму сходу заключэньне аб гадавой справаздачы і буджэту;

в) Рэвізыйную камісію склікае старшыня Рэвізыйнае камісіі, паведамляючы аб гэтым за тры дні абвесткаю. Пастановы прыймаюцца простаю большасьцю галасоў.

## X. Ліквідацыя.

§ 49. Беларускае Навукова-Краязнаўчае Таварыства ліквідуецца:

а) на падставе пастановы Агульнага сходу;

б) калі лічба сяброў менш за 7;

в) у выпадку няздольнасьці плаціць;

г) на падставе адпаведнае пастановы суду.

§ 50. Калі зьяўляюцца варункі, якія даюць повад падняць пытаньне аб ліквідацыі Т-ва, Цэнтральнае Праўленьне не марудзячы склікае Агульны сход, які выносіць пастанову аб ліквідацыі Т-ва, ці робіць захады дзеля уніткненьня яе.

§ 51. Ліквідацыю Т-ва, на падставе § 37, рооящь асабліва дзеля гэтага абраныя Агульным сходам ліквідатары у лічбе ня менш за 3.

Пастанова Агульнага сходу аб ліквідацыі паведамляецца Акруговаму Суду і друкуецца у Дзяржаўным Весьніку.

§ 52. Ліквідатары падлеглы агульным правілам аб членах Цэнтральнага Праўленьня.

§ 53. Ліквідатары выклікаюць пазычальнікаў Т-ва праз абвесткі і паведамленьні у газэтах, прыймаюць крокі дзеля іх задаваленьня, распрадаюць маёмасьць Т-ва, дагарваюцца і робяць умовы з трэцьцімі асобамі на грунце адзначаных на Агульным сходзе падстаў і у прызначаных ім межах.

§ 54. Пасьля залатвеньня усіх пазык Т-ва, застаўшаяся маёмасьць выкарыстоўваецца на культурна-навуковыя мэты згодна з пастановай Агульнага сходу.

§ 55. Пасьля сканчэньня ліквідацыі, ліквідатары прадстаўляюць Агульнаму сходу ліквідацыйную справаздачу на зацьверджаньне. Пасьля зацьверджаньня справаздачы паведамляецца Акружны Суд аб сканчэньні ліквідацыі і здаюцца яму на сховы справы, кнігі і дакумэнты Таварыства.

**Спартыунае спаборніцтва** паміж сябрамі Пустынскага Аддзелу Т-ва Беларускае моладзі адбылося 21 жніўня на прыгожа ілюмінаваным паўвостраве „Вормія“ у адлегласьці 1 кілёмэтру ад Пустыні. Ужо здалёку чувалася музыка духавога аркэстру, пад якую былі спатканы спартысты Т-ва. Спартыўная сэкцыя зьявілася у страю, з беларускімі сьпевамі, у спартыўна-нацыянальных вопратках. Зараз-жа пачаліся гімнастычныя практыкаваньні і пабудова прыгожых гімнастычных пірамідаў. Практыкаваньні і піраміды дужа спадабаліся публіцы. Затым адбылося спаборніцтва у бегу навыперадкі. Тутака цікавасьць прысутных ўзнялася да найвышэйшай ступені. Спаборніцтва было вызначана на 3 кілёмэтры, з 2 прызамі. Старыя і маладыя сабраліся ня толькі на полі, але уздоўж шляху. Калі пачууся ражок музыкі у знак выхаду спартыстаў на спаборніцтва, усе прысутныя захвіляваліся і згрудзіліся жывой сьцяной. Некалькі хвілюючых момантаў чаканьня. Ціха стала ва усіх кутках. Раптам пачууся стрэл, і бягуны кінуліся у напрамку Пустыні, абганяючы адзін аднаго. Сярод прысутных напружаная увага. Праз 6 з пал. хвілін першым прыбег на круг спартыст Болюсь Невяроўскі, за ім Антось Парфен і трэцім Паўля Парфен. Музыка зайграла прывітальны марш. Пераможцам паднясьлі прызы: добры настольны гадзіннік (1-шы прыз) і пісьмовы прыбор (2-гі прыз). Прысутныя пачалі падыходзіць з прывітаньнямі да пераможцаў і і прэміроўшчыка, гр. С. Вігуля. У пірамідах і спаборніцтву прынялі удзел 11 спартыстаў. Прысутна на вечарыне было шмат народу і усе асталіся дужа задаволены.

Пажадана было-б як мага часьцей бачыць гэткія спаборніцтвы.

**Прысутны.**

**Таварыства „Беларускае Моладзі у Латвіі“** выпусьціла друкаваны пакуль-што на пішучай машынцы інфармацыйны Бюлетэнь аб працы гэтага Т-ва. Першы нумар бюлетэню, пад назовам — „Апавесьнік“, вышаў 21 ліпеня і мае гэткі зьмест: 1. Надзвычайны Агульны Сход Т-ва. 2. Праца Часовага Цантральнага Праўленьня. 3. Неабходнасьць актыўнае працы Т-ва. 4. Патрэбнасьць перарэгістрацыі сяброў. 5. Зліквідаваньне сяброўскіх складак за стары час. 6. Сяброўскія складкі на будучыню. 7. Справы і маёмасьць Т-ва. 8. Весткі аб працы Аддзелаў Т-ва. 9. Скліканьне Агульнага Сходу. 10. Плян працы і буджэты Аддзелаў Т-ва. 11. Сувязь паміж Аддзеламі і Цантральнымъ Праўленьнем. Бюлетэнь падпісаны старшынёй Цантральнага Праўленьня—Пятром Масальскім, скарбнікам—Верай Бялінскай і сакратаром—Язэпам Каялай. З памянёнага „Апавесьніка“ даведываемося, што Т-ва „Беларускае Моладзі у Латвіі“ перажывае зара‘ некаторы унутрашні крызіс, які выкліканы працаю папярэдняга Цантральнага Праўленьня, што прывяло да незадаваленьня, пратэстаў і закідаў з боку Рэвізыйнае Камісіі і сяброў.

Шчыра жадаемо Т-ву Беларускае Моладзі як мага хутчэй справіцца з паўстаўшымі труднасьцямі і перайсьці да плоднае творчае працы.

**Урачыстае адчыненьне бібліятэкі-чытальні** пры Пустынскім Аддзеле Т-ва Беларускае моладзі адбылося 21 жніўня у памешканьні Пустынскай аснаўной школы. Урачыстасьць наведаў дырэктар Дзьвінскае беларускае гімназіі, гр. С. Сахараў, які прачытаў рэфэрат на тэму: — „Заданьні Беларускае моладзі“. Хорам Т-ва былі споўнены дзяржаўна-латыскі і беларускі гімны і некалькі народных беларускіх песьняў. Сябры Т-ва і прысутныя былі дужа задаволены навучальнай прамовай гр. С. Сахарава і хорам Т-ва. Сябра Праўленьня Т-ва, В. Рацін, зрабіў даклад адносна наладжанае бібліятэкі-чытальні, прачытаў прывітальныя пажаданьні ад грамадзкіх беларускіх дзеячоў і агаласіў ад каго атрыманы ахвяры кніжкамі у бібліатэку. Прысутныя вынеслі сваю падзяку за прывітальныя пажаданьні, а таксама за ахвяраваныя у бібліатэку кніжкі.

**Дзіцячая пляцоука пры 1-й Рыскай Беларускай пачатк. школе** улетку 1931 году пачала працу 15-га чэрвеня і працавала да 1-га верасьня. На пляцоўку было запісана 48 дзяцей, але апрача іх прыходзілі яшчэ вучні падгатоўчай клясы гэтай-жа школы. Заняткі вяліся ад 9 гадзін зраньня да 5 гадзін увечары. Займаліся гімнастыкай, гульнямі, хараводамі, сьпевамі, вырабам рожных рэчаў з плястэліну і паперы. У сярэднім штодзённа пляцоўку адведывала 36 дзяцей. Таму што дзеці амаль увесь дзень праводзілі на пляцоўцы, ім выдавалася гарачая ежа 3 разы у дзень. На утрыманьне пляцоўкі была атрымана дапамога ад Беларускага Аддзелу у памеры 200 латаў ды апроч таго складзена было вучыцелямі Рыскай мястовай 1-й беларускай школы на пляцоўку 350 латаў. Пляцоўку адведывалі дзеці бедных працоўных бацькоў, каторыя знаходзяцца на працы ад 6-8 гадзін зраньня аж да 5-6 гадзін увечары.

**Беларускае Выдавецтва у Латвіі** выпусьціла брашуру К Езавітава—„Беларусы у Літве“, у аснову якой ляглі перапрацаваныя і пашыраныя нарысы на тую-ж тэму, што зьмешчаны былі у № 1, № 2 і № 3 нашага часопіса.



**Спартыўная сэкцыя пры Пустынскім Аддзеле Т-ва Беларускае Моладзі ў Латвіі.** Стаяць зьлева ўправа: В. Енін, Стаўра, П. Зашчырынскі, М. Лоцік, Карабежка, Б. Невяроўскі (атрымаў 1-ы прыз у бегах) і В. Іжык. Сядзяць: П. Парфен, А. Парфен (2-гі прыз у бегах) і Ул. Невяроўскі. У цэнтры стаіць кіраўнік спартыўнае сэкцыі — гр. Вігуль.

## Хроніка беларускага жыцьця у Латвіі.

**Урад Беларускага Навукова-Краязнаучага Т-ва** ухваліў закласьці Аддзелы Т-ва у Дзьвінску і у Люцыну. Справа гэтая даручана на Люцыншчыне — гр. С. Казэку, на Дзьвіншчыне — С. Сахараву. Каб палегчыць справу запісу беларускіх народных мелёдый Урад Т-ва ухваліў набыць фонограф, якім будуць карыстацца сябры Т-ва пад час экспэдыцый на вёску. Беларускіх настаўнікаў, курсантаў і гімназістаў просяць паведаміць Т-ва аб вядомых ім вясковых сьпеваках і сьпявачках.

**У Камісіі па выданьню Юбілейнага Беларускага Зборніку** падрыхтоўваецца зара‘ друкаваньне другога ліста Зборніка, у якім зьмяшчаецца канец нарыса К. Езавітава аб Т-ве „Бацькаўшчына“ і пойдзе нарыс Ул. Пігулеўскага — „Беларускі Аддзел за 10 год працы“. Першы ліст, у якім зьмешчана прадмова Камісіі і пачатак памянёнага нарысу гр. К. Езавітава вышаў з друку яшчэ ў чэрвені месяцы.

**Зьмест Зборніка „Дзесяць год беларускае школы у Латвіі“** аканчальна прыняты Юбілейнай Камісіяй у гэткім выглядзе: 1. Уступ ад Камісіі па выданьню Юбілейнага Зборніка. 2. Беларускае культурна-асьветнае Т-ва „Бацькаўшчына“ у Латгаліі і яго роля у справе стварэньня беларускае школы у Латв.і—нарыс К. Езавітава. 3. Беларускі Аддзел за 10 год—нарыс Ул. Пігулеўскага. 4. Дзяржаўныя беларускія вучыцельскія курсы — нарыс П. Жэрдзі. 5. Дзьвінская дзяржаўная беларуская гімназія—нарыс С. Сахарава. 6. Люцынская беларуская гімназія—нарыс К. Езавітава. 7. Рыская прыватная беларуская гімназія—нарыс А. Родзька. 8. Люцынская беларуская мястовая 6-ці клясовая аснаўная школа за 10 год працы — нарыс С. Казэкі. 9. Дзьвінская беларуская мястовая аснаўная 6-ці клясовая школа за 10 год нарыс—А. Якубецкага. 10. 1-я Рыская беларуская мястовая 6-ці клясовая аснаўная школа—нарыс С. Сіцько. 11. 2-я Рыская беларуская мястовая 6-ці клясовая аснаўная школа — нарыс Г. Плыгаўкі. 12. Беларуская дадатковая школа у Рызе—нарыс Я. Кастылюка. 13. Рыская беларуская прыватная школа—нарыс П. Жэрдзі. Далей пойдуць нарысы аб вясковых беларускіх школах па меры атрыманьня матар‘ялаў, а пры канцы Зборніка будуць зьмешчаны агляды працы беларускіх культурна-асьветных Таварыстваў.

**Складкі на Юбілейны Зборнік** ужо складзены большасьцьцю беларускіх настаўнікаў, але яшчэ ня усе беларускія школы і настаўнікі выканалі свой грамадзкі абавязак. З наступнага нумару мы пачнём зьмяшчаць сьпісы тых, хто ужо зрабіў складкі, адмячаючы школы і паасобных настаўнікаў.




**Зьмест № 4 (14):**





Адказны Рэдактар — **К. Езавітаў.** Выдавец — **Беларускае Выдавецтва.**

Друкарня Г. Іге, Рыга, Гэртрудзінская вуліца, 80. Тэлефон 34212.